


# Грамадзянскі ФОРУМ

The bulletin is made up on the equipment given by US Information Agency (USIA) №10 (16) 16 – 31 мая, 2000 года


# «ВЕСНА-2000: ДУХ ПЕРАМЕН»

## Асэнсаванне феномена «Беларускай вясны-2000» і ўсведамленне значнасці цяперашніх падзей неабходныя нам усім ужо зараз, каб зразумець, наколькі важныя глабальныя змены перажываюць наша краіна і грамадства.



На дзесятым годзе аднаўлення незалежнасці пратэстнае супраціўленне рэжыму ў Беларусі нарэшце ператвараецца ў масавую духоўную апазіцыю - абуджаецца і набірае сілу той сапраўды нацыянальны рух, з якім, не так даўно па краінах Усходняй Еўропы пракаціліся аксамітныя і пяючыя рэвалюцыі.

***Акцыя любові.***

Вось ужо чатыры гады старт для падзей мі?ынговай вясны дае маладафронтаўскае шэсце на Дзень Святога Валянціна. Заканамерна, што менавіта студэнты і школьнікі, якія ідуць у першых шэрагах і складаюць асноўную масу на большасці незалежніцкіх дэманстрацый, штогод распачынаюць вясновыя вулічныя выступленні - тыя, каму заўтра ў Беларусі жыць, наглядна паказваюць шлях у будучыню, кірунак развіцця краіны.

Маладзёжныя дэманстрацыі «Беларусь - у Еўропу!» з абыходам замежных амбасад і абавязковым сюжэтам відовішча шмат у чым вызначалі і далейшы настрой, і характар кожнай вясны. І сёлета абсалютна новыя, моцныя і пранізлівыя ноткі Вясны-2000 упершыню прагучалі менавіта 14 лютага, падчас акцыі Любові. Сімвалы акцыі, званочкі, якія з пачаткам нашай эры былі знакам ранніх хрысціян, а пазней ператварыліся ў велічныя званы на храмах, яўна пераклікаліся з Прагай-89 і сусветнай эмблемай Радыё «Свабода».

Апошні званок для страху, гвалту і нянавісці прагучаў пазыўным свабоды і перамен, перщым званочкам веры, надзеі і любові - і, як паказалі наступныя вясновыя падзеі, быў пачуты.

Акцыя Любові згуртавала пад бел-чырвона-белымі сцягамі ў шэсцях, пікетах і жывых «палаючых сэрцах» моладзь дванаццаці буйнейшых беларускіх гарадоў. У святкаванні ўдзельнічалі разам з Маладымі фронтаўцамі і грамадоўцы, і сябры Грамадзянскага Форума, і Маладзёжны Хрысціянскі Сацыяльны Саюз, і Задзіночанне беларускіх студэнтаў, і непалітычныя арганізацыі.

Мітынг і канцэрты, вывешванні сцягоў і вечарыны, віншаванні амбасад, прадстаўніцтваў і ўсіх суграмадзян - такой па-сапраўднаму агульнабеларускай, еўрапейскай, самастойай маладзёжнай кампаніі яшчэ не было. Здаецца, новае пакаленне чуйна ўлавіла аб'яднаўчыя веянні апошніх часоў, падхапіла ідэю салідарнасці - і ў выніку пасля 14 лютага стала магчымым казаць пра існаванне адзінага маладзёжнага нацыянальнага руху.

Двухтысячнае шэсце ў Мінску са спевамі і гучнымі скандзіраваннямі проста дыхала свежасцю і любоўю. Ніводнага затрыманага не было ні ў сталіцы, ні на месцах, дзе многія мерапрыемствы прайшлі несанкцыянавана і былі нечаканымі для ўлад.

Міліцыянты,назіральнікі і журналісты здзіўляліся поўнай адсутнасці зняважлівых выкрыкаў, сутыкненняў і нянавісці. Перамога любові над страхам, юнага духу над старэючым рэжымам - вось якой стала прэм'ера-2000.

Нарэшце, самым галоўным вынікам акцыі Любові было тое, што яна не засталася проста вулічным апазіцыйным карнавалам ці маштабнай студэнцкай гулянкай, а ўпершыню акцэнтавала ўвагу на духоўнай, хрысціянскай сутнасці беларускага нацыянальнага руху.

*Працяг на стар. 2*

# «ВЕСНА-2000: ДУХ ПЕРАМЕН»

Працяг. Пачатак на стар. 1

Любоў да Радзімы, якая патрабуе змагання, любоў да бліжняга, да кожнага суайчынніка, каханне да любага чалавека, любоў, якая ўратуе свет - усё гэта ўвечары 14 лютага сышлося ў прамоўленых на ўвесь голас словах пра любоў Божую, любоў Хрыстову, любоў у найвышэйшым сэнсе. Сімвалічна, што пасля завяршэння акцыі моладзь, накіравалася ў храмы: Чырвоны, дзе выступалі беларускія барды, і Касцёл Св.Роха, дзе праходзіла вечарына, прысвечаная апекунам Еўропы - Кірылу і Мяфодзію. Агульна-прыняты ўдарны лозунг «Беларусь у Еўропу!» нарэшце набыў поўнае гучанне і цэласную канцэпцыю: уся цывілізацыя Захаду, у якую мы імкнемся, ужо 2 тысячы гадоў будуецца на асноватворным хрысціянскім запавеце любові.

Гэтае неспадзявана моцнае далягляднае азарэнне нацыянальнага руху ў наступных акцыях «Вясны-2000-га» праявілася як ніколі ярка: і на грандыёзным мірным «Маршы Свабоды-ІІ», што перапалохаў рэжым куды больш за пабоішча 17 кастрычніка, і ў выпрабаваннях Дня Волі, у прамовах на мітынгу пасля жорсткіх затрыманняў і разгонаў, і ў ціхай, але прачулай Малітве за Беларусь.

***Марш Свабоды-ІІ***

Змрочнае, халоднае надвор'е 15 сакавіка - дождж са снегам з самай раніцы - адпавядала самым песімістычным настроям і толькі згушчала вакол «Маршу» пагрозныя прадчуванні. Здавалася, настолькі ж цьмяна выглядалі на гэты час перспектывы апазіцыі. Але калі ў 17.00 на плошчы пачалі збірацца людзі, калі натоўпы народу за чвэрць гадзіны запоўнілі пляц перад помнікам, прылеглыя ходнікі і скрыжаванні, калі залуналі першыя сцягі і пракацілася дружнае «Жыве!» - стала зразумела: нягледзячы ні на што, настрой будзе зусім іншы.

Аграмадны натоўп ужо не мог змясціцца на плошчы, а людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. Моладзь, што рынулася ў пярэднія шэрагі, з пераможнымі воклічамі рушыла на праспек?.

Гэта сапраўды быў «Марш Свабоды». Адкрытыя, радасныя твары - моладзь ужо не хавала іх пад банданамі, - скандзіраванне з прыхлопваннем у сотні рук, гучнае шматтысячнае рэха - такога не было, бадай, з легендарнай Вясны-96. «Жыве Беларусь!», «Незалежнасць!», «Моладзь за Беларусь!» - трыяда вядучых лозунгаў паўтаралася штораз усе мацней. Ужо не надаедлівае, пра Лукашэнку, не адчайнае, з надрывам, пра ворагаў, а ўпэўнена, вольна, такім пераможным хорам, што дрыжэлі шыбы ў вокнах - «...За Беларусь!».

Грандыёзнае шэсце, што расцягнулася ўжо больш чым на кіламетр, разгортвала і збірала за сабою супраўваджальны рух уражаных мічукоў на ходніках - усіх разам было ўжо некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Трэба ўявіць сабе, што адчувалі міліцыянты, выстаўленыя ў ачапленне на вуліцы Багдановіча ішоў «Марш пакаленняў».

Наперадзе велізарнай людской плыні, абганяючы галаву калоны, подбегам імчалі дзеці, школьні?і ды падлеткі, за імі рушылі шэрагі моладзі са сцягамі і транспарантамі; у сярэдзіне, як і мае быць, дэманстранты сярэдняга ўзросту, і потым - пажылыя ўдзельнікі і пенсіянеры.



Беларусь «ад мала да вяліка», увесь апазіцыйны рух праходзіў больш як паўгадзіны, скандзіруючы «Жыве Беларусь!» і святочны феерверк на падыходзе да парку Дружбы народаў, і прамовы з асветленай пражэктарамі сцэны сярод, навакольнага змроку, і рок-канцэрт N.R.M. для захопленай моладзі - усё гэга насамрэч апраўдвала выраз «трыумф» Маршу Свабоды-ІІ.

15 сакавіка ўлады прайгралі відавочна і настолькі бездапаможнымі, разгубленымі выглядалі іх паводзіны назаўтра, што забарона далейшых маніфестацый не пакідала ніякіх сумненняў: сапраўды спалохаліся. Відавочным да непрыстойнасці аказаўся той факт, што першы «Марш», 17 кастрычніка, з выбухам нянавісці, каменным градам і жорсткімі сутыкненнямі, быў для іх куды больш выгадны і прымальны, чым маніфестацыя 15 сакавіка. Аказалася, што іх пужае зусім не наша нянавісць, бо як раз нянавісць ёсць праява слабасці. Насамрэч яны добра пачулі водтулле духоўнага руху, які перарастае ў статысячныя пяючыя і аксамітныя рэвалюцыі, таго агульнанацыянальнага абуджэння, адна думка пра якое скаланае рэжымы і імперыі да самых асноваў .

«Марш Свабоды-ІІ» нанёс рашучы псіхалагічны ўдар усёй сістэме абароны рэжыму, заснаванай на азлобленым супрацьстаянні радыкальнай вулічнай апазіцыі міліцыянтам і ўнутраным войскам ініцыятыва перайшла да нацыянальнага руху.

***Дзень Волі***

А праз дзесяць дзён, у Дзень Волі, было сонечна. Так шчыра еяснова, ярка і свежа, каб усім было цудоўна бачыць тое, што адбываецца на мінскіх вуліцах. Сонца сляпуча блішчэла ў метале БТРаў і вадамётаў, блікавала на пластыкавых шлемах спецназа.

Бронетэхніка, дэманстратыўна расстаўленая ў самых знакавых месцах сталіцы, - пасярод пл.Незалежнасці, на пл. Якуба Коласа, ля Акадэміі навук давала зразумець, што рэжым гатовы ажыццявіць самае бязлітаснае падаўленне.

Да пачатку маніфестацыі падраздзяленні спецназа раптоўна заатакавалі штаб-кватэру БНФ, хапаючы актывістаў і мітынговы рыштунак. На вуліцах выстраіліся міліцэйскія ланцугі і патрулі з сабакамі. Здавалася, свята пазбаўлена ўсіх шанцаў на тое, каб хаця б пачацца.

На плошчы Якуба Коласа кардоны ўнутраных войск і міліцыі блакіравалі і адцяснялі ў бліжэйшыя вуліцы і двары тысячы людзей, што збіраліся на Дзень Волі. У велізарнай трубе пераходу на станцыі метро, ходніках і прыпынках ужо віравалі натоўпы. Беспрэцэдэнтная па маштабах паліцэйская аперадыя, разгорнугая ў цэнтры сталіцы, перайшла да масавых затрыманняў. Хапалі і збівалі жанчын, старых, падлеткаў, дэпутатаў польскага Сейма, назіральнікаў АБСЕ, замежных журналістаў і расійскіх тэлеаператараў... Так безаглядна шалеюць толькі тады, калі гістарычная нянавісць ужо больш нагадвае паніку.

Якраз тады на плошчы можна было назіраць пранізлівую карціну. Нейкая дзяўчына цудам вырвалася на пусты ачэплены пляц (вось яна, наша Воля!) і пачала скандзіраваць «Жыве Беларусь!». Людзі, што стаялі за кардонамі з боку Камароўкі і на ходніках, падхапілі вокліч, але дзяўчыну ўжо заломвалі міліцыянты. Імгненне разгубленасці, калі ўдзельнікі аказаліся рассечаныя і заціснутыя спецпадраздзяленнямі, стала момантам ісціны для нацыянальнага руху.

Амаль усе ранейшыя падобныя хапуны завяршаліся поўным разгромам і рассейваннем дэманстрантаў. Але ў гэты дзень у выпрабаванні страхам і гвалтам беларуская воля перамагла. Нягледзячы на тое, што ўжо сотні людзей былі затрыманыя, з плошчы адначасова арганізаваўся стыхійны рух на праспект і па вуліцы В.Харужай. Мінаючы міліцэйскія шэрагі і БТРы, людзі ўздымалі бел-чырвона-белыя сцягі і скандзіравалі «Жыве Беларусь!». На мітынг на аўтастанцыі Кульман прыйшло да 10 тысяч чалавек.

Так 25 сакавіка стала днём перамогі «Вясны-2000». Перамога адбываецца не тады, калі ўсе крычаць «ура!» і эфек?на ўскідваюць рукі, а ў той балючы момант, калі перамагаеш страх і нянавісць у самім сабе, калі пераадольваеш уласную няўпэўне насць і слабасць.

Менавіта такім момантам ісціны, момантам перамогі для Вясны і стаў Дзень Волі. Калі затрыманыя смяяліся ў твар спецназаўцам, калі ў ангары спецчасткі на Маякоўскага хорам спявалі беларускія песні і скандзіравалі «Жыве Беларусь!», калі ледзь вызваленыя зноў ехалі ў цэнтр, на мітынг, а рассечаныя і атакаваныя натоўпы народу не разбягаліся, а рушылі па горадзе - станавілася абсалютна ясна, што гэта перамога.

Далейшыя прыніжаныя міліцэйскія прабачэнні перад журналістамі і апраўдальныя прысуды затрыманым толькі пацвердзілі разгубленасць і слабасдь улады перад сілай духу.25 сакавіка «Вясна-2000» выбухнула. Успышка яркага вясновага сонца асвяціла і выпрабаванне нянавісцю, страхам, гвалтам і нашу перамогу скрозь боль. Усю ўладную машыну скаланула сутарга перапуду. Інфармацыйны выбух, які паследаваў тут жа і апярэдзіў на тэлеканалах расійскія выбары ды чэчэнскую вайну, аказаўся яшчэ больш магутным. Розгалас на прасторах ад Вашынгтона да Масквы канчаткова вызначыў расстаноўку сіл вакол Беларусі і ясную, выразную да апошняй рысы карціну: незаконны, гвалтоўны, агрэсіўны дыкгатарскі рэжым - і масавая, едная мірная нацыянальная апазіцыя.

25 сакавіка высветліла яшчэ адну вельмі важную акалічнасць. Улады пайшлі на небывалыя вулічныя рэпрэсіі, на затрыманні заходніх иазіральнікаў і журналістаў, на біццё расійскіх тэлекамер - і ўсё дзеля таго, каб не дапусціць беларускага свята. Гэга значыла, што больш, чым Захаду, сусветнай супольнасці, нават больш, чым Расіі, рэжым баіцца вольнай Беларусі - нашай з вамі веры, волі і духоўнай сілы.

***Малітва за Беларусь***

Пасля аглушальнага выбуху 25 сакавіка чаканне акцыі ў «Дзень аб'яднання Беларусі Расіі» было нямым. І ў прамым сэнсе - амаль без апавяшчэння, без рэкламы, раскруткі і ў пераносным - бо страх улады і папярэдні хапун крайне напружылі маўклівае супрацьстаянне. Здавалася, «Вясна-2000» павісла ў паветры: ці прыйдзе хоць хто? ці пачнуць хапаць?...

Не такая ўжо масавая і відовішчная, Малітва за Беларусь аказалася сэнсава больш моцнай за многія папярэднія акцыі. Улады нават не ўзяліся арганізоўваць хоць нейкае падабенства свайго «свята» - і таму малітва ў цэнтры горада пасля вялізнага пагрому сталася практычна адзінай і вырашальнай падзеяй 2 красавіка.

Сотні людзей сабраліся ў парку ля помніка. Узнята бел-чырвона-белы сцяг, запалілі свечы. Фронтаўскі хор спяваў «Магутны Божа». З'явіліся святары - і вось загучала малітва.



Вакол, у натоўпе, стаяў, несціханы шэпт - людзі маліліся, хто як умее. На заканчэнні пачулася: «Жыве Беларусь!» - і настолькі аграмадная сіла спрацавала ў малітве, такім дружным і гучным «Жыве!!!» грымнула ў адказ, што скрозь здрыгануліся ціхары ў натоўпе, а міліцыянты наводдаль імгнення выцягнуліся ў струнку.

Трэба сказаць, арганізатары вельмі пільна угадалі момант малітвы. Дагэтуль мала хто заўважаў драматычную календарную напругу беларускай вясны. У першай палове - святы: Дзень Валянціна, Дзень Канстытуцыі, Дзень Волі. А вось другая, пачынаючы з красавіка, - гэга ўжо, шэраг дат памятных, глыбока трагічных. Гадавіна падпісання саюзнай дамовы з Расіяй 2 красавіка. «Чарнобыльскі Шлях» 26 красавіка. Дзень ганебнага рэферэндуму аб змене нацыянальнай сімволікі 14 траўня. Нарэшце 30 траўня - Няміга. І самае ўражлівае, што гэтую вясну катастрофаў сэнсоўна выратоўвае толькі кульмінацыя Вялікадня - Дзень уваскрэсення Хрыста, які звычайна прыпадае на красавік-травень.

Усё прадонне сэнсу, увесь боль пакугы беларускай гісторыі, уся веліч будучыні сыходзіцца ў гэтым вобразе. Напярэданні чорных, трагічных датаў, у час Вялікага посту і ў набліжэнні Страснага тыдня Малітва за Беларусь стала дзеяй куды больш глыбокай і змястоўнай, чым магло б камусьці падацца ля помніка Янку Купалу 2 красавіка. Бо сутнасць малітвы не ў тым, каб штосьці выпрошваць, скардзіцца, ныць і чакаць склаўшы рукі. Наадварот, малітва - гэга самастойны ўздым да вышынь духу, да ўсясветнага зместу, да самога святога, да абсалютнай ісціны. Да Бога. Супольная малітва - гэга тое, шті яднае ў адзіным парыве і людзей між сабою, і нацыю з Богам. Супольная малі?ва - гэта наш духоўны фронт супраць імперыі зла. Супольная малітва - гэта, у рэшце рэшт, гімн Беларусі «Магутны Божа, уладар Сусвету, вялікіх сонцаў і сэрц малых...».

У першай, сціплай і ціхай, але шчырай «Малітве за Беларусь - 2000» апазіцыя нарэшце знайшла пачатак той магутнай акцыі, якая ў далейшым здольная стаць адказам грамадству і ўладзе на паражэнні мінуўшчыны, на цяперашні адчай і пагрозу рэваншу. З малітвамі нараджаюцца нацыі. З малітваў пачыналіся ў свой час Польш?а, Чэхія і Прыбалтыка. З малітвы кожны свой дзень пачынаюць сёння і Еўропа, і Амерыка..

***Чарнобыльскі Шлях***

Каб у поўнай меры ацаніць тое, што ж насамрэч адбылося ў Мінску 26 красавіка, трэба узнавіць атмасферу, якая папярэднічала «Чарнобыльскаму Шляху-2000». Супрацьстаянне рэжыму і нацыянальнага руху дасягнула піку. Наколькі сур'ёзны абарот прымаюць падзеі, паказала катэгарычная забарона шэсця, тэрміновы ад'езд з Мінска на 26 красавіка Лукашэнкі, шырокамаштабныя чуткі пра прымяненне спецсродкаў і бронетэхнікі і, нарэшце, нечаканая і гучная адстаўка міністра ўнутраных спраў Сівакова.

Мінгарвыканкам ледзь не штодня праводзіў усё новыя перамовы з апазіцыяй, і іх удзельнікам адразу кідалася ў вочы: чыноўнікі разгубленыя, перапуджаныя і неверагодна шчырыя ў кулуарах. А калі ўлады даведаліся, што для ўдзелу ў «Шляху» ў Беларусь прыбываюць дэпутацкія дэлегацыі з Нямеччыны, Польшчы, Чэхіі, Украіны і Расіі, больш за 100 прадстаўнікоў міжнародных гуманітарных арганізацый і сотні журналістаў з усяго свету, - нервы здалі канчаткова, і перапалох перарос у панічнае адступленне.

Увечары 25 красавіка, за суткі да пачатку шэсця, гарвыканкам даў афіцыйны дазвол на правядзенне Чарнобыльскага Шляху па праспекце Скарыны. А 26-га назіральнікаў не пакідала ўражанне, што рэжым увогуле праваліўся скрозь зямлю: не было ні кардонаў, ні дэманстратыўных БТРаў на плошчах, ні нават патрулёў з сабакамі. Амаль усе міліцыянты, спецназаўцы і вайскоўцы схаваліся ў глыбокіх дварах і не высоўваліся на вуліцу: толькі потым, ужо бліжэй да ночы, пасля шэсця, іх, хаваючыся ў цемры, калонамі ў дзесяткі машын вывозілі з цэнтра сталіцы.

Поўны інфармацыйны і псіхалагічны разгром уладных пазіцый давяршыў сам шматгысячны, мірны і едны «Чарнобыльскі Шлях». Велізарныя грамады народу, корпус чорных транспарантаў са знакамі радыяцыі ў галаве шэсця, поўныя ходнікі гледачоў - скрозь расчыненыя вокны і балконы дамоў па маршруце шэсця пад пранізлівы гул звону - відовішча было проста магутным.

У жалобны і памятны дзень людзі прайшлі «Чарнобыльскім Шляхам» так, як і належыць нацыі, аб'яднанай бядою і пакаяннем. А грамадны мітынг на плошчы ў парку Дружбы народаў, які не змагла ўмясціць нават спецыяльна заасфальтаваная плошча, пачаўся з малітвы.

Асаблівым знакам стала тое, што «Чарнобыльскі Шлях-2000» апынуўся паміж каталіцкім і праваслаўным Вялікаднямі. На ўздыме "Таемнай Вячэры, смяротных пакутаў Хрыста і Ягонага цудоўнага Уваскрэсення, беларускае шэсце, трагічнае і трыўмфальнае адначасова, ператварылася ў велічную маніфестацыю духа. Гэты Шлях болю і надзеі, перажывання і высільвання, веры і памяці аб"ядноўваў, здавалася б, навечна раздзеленых на гэтай зямлі ўсходнікаў і заходнікаў. Гэты Шлях, які стаў найбуйнейшай акцыяй «Вясны-2000', пераканаўча даводзіў усяму свету: нягледзячы на закладзеную ў генах радыяцыю, на рак дыктатуры, на пагррозу вяртання імперыі зла, Беларусь усё роўна мацней за страх, нянавісць і боль.

Увогуле, уся Вясна-2000, якая пракацілася ўзрастальным шэрагам вялізных мірных дэманстрацый, жыва нагадала чэшскія і прыбалтыйскія рэвалюцыі, што перамянілі аблічча Ўсходняй Еўропы з развалам СССР, напрыканцы 80-х і самае важнае, што зместам і сутнасцю Новага Беларускага Абуджэння сталі зусім не азлобленасць, не крыклівы пратэст, не страх і не крывавы гвалт. Вера і Любоў, Воля і Свабода, Малітва і Шлях - вось тыя звышсілы, што гіганцкімі штуршкамі ўздымаюць зараз нацыю ў эпіцэнтры змагання за Беларусь.

Заўважце, у якія простыя, моцныя словы і панацці пераплаўляе 2000 год шматтысячныя вясновыя маніфестацыі. Акцыя Любові. «Марш Свабоды». Дзень Волі. Малітва за Беларусь. «Чарноаыльскі ?лях». Гэта ўжо не палітычныя транспаранты «Дзень Канстытуцыі - 1994» ці «Дзень падпісання саюзнай да'новы», а асноватворныя формулы жыцця, гатовыя коды нацыянальнай ідэі. Простыя словы, простыя рэчы, з якіх усё і пачынаецца.

У гэтым размераным, поўным унутранай сілы эпахальным гучанні - стоены рокат, гісторыі, якая творыцца на нашых вачах. 2000-ы год ад нараджэння Хрыстова Бог нас чуе... Наступныя вясновыя акцыі, якімі завяршаецца шэраг памятных дат, вымагаюць ад нас не проста дружнага мітынгу ці суладнага «Жыве!». І 14, і 30 траўня даюць нам вобразы катастрафічных правалаў, духоунай спустошанасці, усёй жудасці прыніжэння і рабства, усей пачварнасці граху, зла і смерці - дзеля таго, каб асэнсаваць і адчуць увесь неймаверны боль сённяшняй Беларусі.

За пераможным шматтысячньм рэем лютага - красавіка нас чакаюць далейшыя выпрабаванні духу - яднанне ў пакаянні, гартаванне, унутранае пераўтварэнне. Толькі тады, пасля духоўных узрушэнняў і азарэнняў да глыбіняў усяго грамадства «Вясна-2000» зможа стаць сапраўднай Вясной перамен, вясной абуджэння беларускай нацыі.

Зараз самае галоўнае, каб гэты рух перамен не сышоў у легенды памяці подыхам, попахам ці лёгкім ветрыкам, а сапраўды стаў Духам, дыханнем беларускай нацыянальнай апазіцыі. Каб любіць, быць свабоднымі, верыць і выконваць волю Божую пад бел-чырвона-белым сцягам Хрыста для нас з вамі было б гэтак жа проста і натуральна, як і вольна дыхаць.

***Па матэрыялам газеты «Народная Воля»***

*Василий Шлындиков, президент Ассоциации содействия экономическому развитию, председатель Комиссии по экономическим реформам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.*

# О НАЛОГАХ,

## или обязан ли безработный поддерживать сельское хозяйство?

Нет необходимости пояснять, кроме как власть имущим, насколько в Беларуси сложная и запутанная система налогообложения. Величина налоговых и неналоговых изъятий средств предприятий уже давно превышает возможно допустимые размеры. Государство идет на это, чтобы содержать себя и любой ценой удержать неуклонно падающий уровень жизни населения.

Бесконечно этот процесс продолжаться не может, рано или поздно разорение существующих предприятий приведет к обвальному падению уровня жизни, резкому росту безработицы. Это реальность и это нужно знать всем.

Необходимы новые рабочие места, новая налоговая база. Но пока государству не до этого. Создавать же новые рабочие места, похоже, придется безработным. А безработными становятся отнюдь не лодыри и не бездарные люди, наоборот - трудолюбивые и инициативные. Именно этим людям и предстоит возродить нашу экономику. И возродить через создание малых предприятий, предпринимательство. Сделать это сейчас очень и очень сложно. Чего стоит только зарегистрировать предприятие, сколько средств, времени, нервов, унижений. Наше государство сделало все возможное, чтобы препятствий было как можно больше, но об этом в следующем материале.

А пока перед безработным выбор: стоит ли создавать предприятие? В зависимости от выбранной формы предприятия необходимо сформировать уставной капитал, в том числе: крестьянского (фермерского) хозяйства - 50 минимальных зарплат, общества с дополнительной ответственностью - 150, унитарного предприятия - 750, общества с ограниченной ответственностью - 3000, закрытого акционерного общества - 10000. В процессе регистрации необходимо понести также значительные расходы, размер которых будет зависеть от многих факторов, и составлять несколько сот долларов США.

Но, предположим, вы нашли компаньона, имеете возможность одолжить деньги, рассчитывая быстро заработать и вернуть долг. Делая бизнес-план, необходимо знать нашу систему налогообложения, а также то, что уже спустя месяц после начала работы нужно будет платить следующие налоги:

- республиканский налог в фонд поддержки производителей сельхозпродукции - 1,5% от выручки (валового дохода);
- местный комплексный целевой сбор - 2,5% от выручки (валового дохода);
- отчисления в инвестиционный жилищный фонд - 0,75% от выручки (валового дохода);
- отчисления в дорожный фонд - 1% от выручки (валового дохода);
- транспортный сбор - 5% от прибыли;
- налог на прибыль - 15- 20%;
- НДС - 20%;
- налог на недвижимость - 1% от стоимости основных средств;

налоги с начисленной заработной платы:

- чрезвычайный - 4%, в фонд занятости - 1 %, фонд социальной защиты населения - 35%.

У вас еще ничего нет, собранного в уставном фонде капитала крайне мало, чтобы начать собственное дело. Вы недавний безработный, а от вас уже требуют поддерживать сельское хозяйство, ликвидировать последствия чернобыльской аварии, платить в фонд занятости, строить жилье для чужого дяди, платить за ремонт дорог, содержать ведомственные сады. При таком нагромождении надо серьезно подумать, стоит ли начинать собственное дело. И при этом тебя еще будут называть «вшивой блохой», «жульем», «отребьем».

Перед принятием решения надо попробовать изучить, как эти налоги рассчитывать, чтобы заплатить. Тогда вы поймете, что нужен бухгалтер с хорошей подготовкой и достойной зарплатой, но и он вам не поможет, потому что многие инструкции противоречивы и любой контролер может толковать их так, как ему будет нужно. И вас спасет, как Тамару Винникову, только тюрьма. Но где взять грамотного бухгалтера? Хорошо, если найдете девочку с максимальным чувством ответственности, иначе в один день можете потерять все, что сумели создать за несколько лет напряженного труда.

А сейчас представим, что в нашем Отечестве власть имущие вдруг осознали, что они завтра тоже будут безработными, что вероятнее всего, и приняли Закон «Об упрощенной системе налогообложения, учета и отчетности для субъектов малого предпринимательства», который бы стимулировал создание новых рабочих мест, поддержал бы ваши устремления. У нас принят одноименный закон, но мало кто рискнул воспользоваться им.

Во всем мире налоговые методы поддержки являются основными элементами государственной поддержки малого бизнеса.

При этом возможны три метода налоговой поддержки малого бизнеса:

- налоговые льготы при общепринятых методах бухгалтерского учета, отчетности и обычной системе налогообложения;
- упрощенные методы налогообложения и бухгалтерского учета;
- патентная система. В этом случае налог уплачивается в виде платы за патент.

Закон «Об упрощенной системе налогообложения для субъектов малого предпринимательства» должен охватить оба последних метода налоговой поддержки:

1) упрощенную систему налогообложения,
2) патентную систему.

**Патентная система.**

Патент может устанавливаться как для частных предпринимателей, осуществляющих предпринимательскую деятельность, так и для юридических лиц.

Для индивидуальных предпринимателей без образования юридического лица применение упрощенной системы предусматривает замену уплаты подоходного налога на доход, полученный от осуществляемой предпринимательской деятельности, уплатой стоимости патента на занятие данной деятельностью.

Целесообразность перевода юридических лиц на патентную систему налогообложения возникает в случаях, когда предприятия получают плату за свою продукцию или услуги в наличных деньгах. Прежде всего это предприятия сферы обслуживания. Здесь очень трудно осуществить контроль за доходами и уплатой налогов. Проще стоимость патента рассчитать, например, исходя из выручки от реализации продукции или услуг на один квадратный метр используемого помещения. При этом можно учесть место реализации товара.

Объектами патентной системы могут явиться предприятия мелкорозничной и мелкооптовой торговли, общественного питания и сферы бытовых услуг населения (рынки, кафе, столовые, закусочные, кафетерии, павильоны, киоски, аптеки, магазины, палатки, ларьки и др.), а также объекты сферы бытового обслуживания населения (бани, парикмахерские, ломбарды, ателье, фотоателье, ремонтные мастерские, киоски и т. д.). Что касается индивидуальных предпринимателей, то очень легко решить все вопросы, связанные с переходом на патентную систему для тех, кто занимается производством товаров народного потребления, печатной продукции, изделий художественных промыслов, ремонта, торговлей и торгово-закупочной деятельностью, грузовыми и пассажирскими перевозками. Вполне подходят на эту систему люди свободных профессий: художники, фотографы, врачи, преподаватели, переводчики, юристы, аудиторы, адвокаты, нотариусы и т.д.

Стоимость годового патента или патента на ряд лет устанавливают местные органы власти. Надо, чтобы народ знал своих героев-руководителей и на выборах высказывал свое отношение к ним. Люди должны сами решить, нужен ли им такой руководитель, который не дает возможности нормально работать и жить.

По существу, патентная система - это система «твердого» налогообложения». После установления его величины правильность его уплаты по бухгалтерской отчетности не контролируется. Сколько безработных контролеров при этом появится, сколько будет сэкономлено средств!

**Упрощенная система налогообложения.**

Применение упрощенной системы налогообложения, учета и отчетности предусматривает замену уплаты совокупности установленных законодательством республиканских и местных налогов и сборов уплатой единого налога, исчисляемого по результатам хозяйственной деятельности организаций за отчетный период. Но при этом для организаций, применяющих упрощенную систему налогообложения, учета и отчетности, нужно сохранить действующий порядок уплаты таможенных платежей, государственных пошлин, лицензионных сборов, отчислений в социальные фонды, подоходного налога.

Действие патентной и упрощенной системы налогообложения, учета и отчетности можно было бы распространить на индивидуальных предпринимателей и организации с предельной численностью работающих (включая работающих по договорам подряда и иным договорам гражданско-правового характера) до 25 человек независимо от вида осуществляемой ими деятельности.

Из-под её действия, возможно, надо вывести организации, занятые производством подакцизной продукции, кредитные организации, страховщиков, инвестиционные фонды, профессиональных участников рынка ценных бумаг, предприятия игорного и развлекательного бизнеса и хозяйствующие субъекты других категорий, для которых Министерством финансов установлен особый порядок ведения бухгалтерского учета и отчетности.

Субъектам малого предпринимательства надо дать право перейти на упрощенную систему налогообложения, учета и отчетности, если в течение года, предшествующего квартала, в котором произошла подача заявления на право применения упрощенной системы, совокупный размер валовой выручки данного налогоплательщика не превысил суммы стотысячекратного минимального размера оплаты труда, установленного законодательством РБ на первый день квартала, в котором произошла подача заявления, вновь образуемым предприятиям - сразу.

**Бухгалтерский учет.**

Действующий закон практически не допускает упрощенного бухгалтерского учета. Когда разрабатывался Закон «Об упрощенной системе налогообложения...», его авторы предлагали значительно упростить и бухгалтерский учет для малых предприятий. Его суть состояла в отказе от принципа двойной записи. Однако это предложение было отвергнуто, что стало одной из причин отказа субъектов хозяйствования от системы «упрощенного» налогообложения.

Сейчас малые предприятия Беларуси испытывают большие трудности с ведением бухгалтерского учета. Законодательные нормы здесь меняются очень часто. Один бухгалтер малого предприятия за всеми изменениями уследить практически не может. Проверки выявляют, что до 70% предприятий в республике в 1999 г. нарушили правила учета и уплаты налогов. Чрезмерно высокие штрафы за нарушения разоряют многие предприятия. Учитывая критическую ситуацию в этой области, а также ожидаемый рост числа МП в связи с возможной либерализацией экономики, следует опять вернуться к проблеме упрощенного бухгалтерского учета.

В новом законе следует разрешить организациям, применяющим упрощенную систему налогообложения, учета и отчетности, оформлять первичные документы бухгалтерской отчетности и ведение книги учета доходов и расходов по упрощенной форме, в том числе - без применения способа двойной записи, плана счетов и соблюдения иных требований, предусмотренных действующим положением о ведении бухгалтерского учета отчетности.

Упрощенная форма первичных документов бухгалтерской отчетности и ведения книги учета доходов и расходов должна быть установлена правительством и быть единой на всей территории республики.

Частные (индивидуальные) предприниматели, перешедшие на патентную систему налогообложения, вправе не вести бухгалтерский учет вообще.

Малым предприятиям и индивидуальным предпринимателям надо предоставить право остаться в системе обычного налогообложения или перейти на один из указанных методов. При этом переход на упрощенный метод налогообложения должен сопровождаться переходом на упрощенный метод бухгалтерского учета.

**Объект налогообложения.**

В действующем законе объектом налогообложения является «валовая выручка, полученная от реализации продукции, товаров (работ, услуг) за отчетный период».

*Працяг на стар. 6*

*Працяг. Пачатак на стар. 4.*

Выбор только валовой выручки в качестве объекта налогообложения весьма неудачен, поскольку структура цены реализации весьма различна для разных видов деятельности.

Например. 10% налога от выручки (стопка налога по действующему законодательству) будет губительна для предприятий с большой материалоемкостью (например, для швейного производства) и слишком мала для трудоемких производств (например, видео салонов и кинотеатров, ремонтных предприятий и т. д.).

Считаю, что выбор объекта обложения единым налогом организаций должен зависеть от того, к какой категории по видам деятельности относится данная организация.

В качестве объекта налогообложения единым налогом организаций целесообразнее всего установить:

а) совокупный доход, полученный за отчетный период (квартал, полугодие, 9 месяцев, год), если организация осуществляет свою деятельность в следующих отраслях:
- промышленность,
- сельское хозяйство,
- строительство,
- транспорт,
- информационно-вычислительное обслуживание,
- жилищно-коммунальное хозяйство и непроизводственные виды бытового обслуживания населения,
- наука и научное обслуживание,
- народное образование, культура, искусство,
- здравоохранение, физическая культура, социальное обеспечение;

б) валовой доход, полученный за отчетный период (квартал, полугодие, 9 месяцев, год), если организация осуществляет свою деятельность в следующих отраслях:
- торговля и общественное питание,
- общая коммерческая деятельность по обеспечению функционирования рынка,
- при осуществлении деятельности в других отраслях.

Вид деятельности целесообразнее определять по тому виду деятельности, доля выручки от которого составляет более 50 % в сумме валовой выручки, исчисленной в соответствии с зафиксированной учетной политикой данной организации.

Валовая выручка исчисляется как сумма выручки, полученная от реализации товаров (работ, услуг), продажной цены имущества, реализованного за отчетный период, и внереализационных доходов.

Совокупный доход исчисляется как разница между валовой выручкой и стоимостью использованных в процессе производства товаров (работ, услуг), сырья, материалов, комплектующих изделий, приобретенных товаров, топлива, эксплуатационных расходов, текущего ремонта, затрат на аренду помещений, используемых для производственной и коммерческой деятельности, затрат на аренду транспортных средств, расходов на уплату процентов за пользование кредитными ресурсами банков (в пределах действующей ставки рефинансирования плюс 3 процента), оказанных услуг, налога на приобретение автотранспортных средств, отчислений в государственные социальные фонды, уплаченных таможенных платежей, государственных пошлин и лицензионных сборов, оплаты труда наемных работников.

Валовой доход исчисляется как разница между валовой выручкой и стоимостью реализованного за отчетный период имущества по ценам приобретения.

Субъект хозяйствования при расчете с потребителями его товаров (услуг) указывает в расчетных документах выходной НДС. При этом он может использовать любой метод разнесения косвенных затрат на себестоимость. Налог на добавленную стоимость учитывается в ставке единого налога или в патенте и отдельно не перечисляется.

**Ставки единого налога:**

Для субъектов малого предпринимательства, применяющих упрошенную систему налогообложения, учета и отчетности, целесообразно установить ставку единого налога на совокупный доход, подлежащего зачислению в местный бюджет в размере 10 процентов от совокупного дохода.

В случае, когда объектом налогообложения для субъектов малого предпринимательства определенных категорий является валовая выручка, целесообразно установить ставку единого налога, подлежащего зачислению в местный бюджет в размере 10 процентов от суммы валовой выручки.

Налоги от малых предприятий и предпринимателей должны направляться в местный бюджет. Надо приучить местную власть к тому, что она обязана не учить, когда и как сеять и пахать, а создавать условия для предпринимательства и за счет этого формировать местный бюджет. Надо научить местные власти стать садовниками, а не дровосеками. Причем местные органы управления должны иметь право льготировать эти налоговые платежи. Это их бюджет, и это должно быть их право.

Если будет принят такой закон («Об упрощённой системе налогообложения, учёта и отчётности для субъектов малого предпринимательства», разработан Ассоциацией содействия экономическому развитию), несомненно, предприниматели получат возможность для эффективной работы, будут ограждены от государственного рэкета. Шанс для лучшей жизни получат миллионы людей.

***По материалам газеты «Народная Воля»***

# 992 Утварэнне Полацкай епархіі

У 1992-м наша краіна сьвяточнымі летургіямі, заснаваньнем новых храмаў, навуковымі канферэнцыямі - адзначала 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі. За пункт адліку быў прыняты ўдакладнены гісторыкамі год стварэння Полацкай епархіі.

Як вядома, кіеўскі князь Уладзімір стаў хрысьціянінам у 988 годзе. Старажытны стод Пяруна, як звычайнае бервяно, паплыў да дняпроўскіх парогаў, а раку Ўладзімір Краснае Сонейка зрабіў велізарнай купеляй. Сагнаным на бераг кіянам князь кінуў пагрозлівае: «Хто не са мною, той супраць мяне». Баючыся суровай кары за непаслушэнства, паганцы заходзілі па шыю ў ваду і вярталіся ўжо хрысьціянамі. Ноўгарадцаў, паводле сьведчаньня летапісу, кіеўскія ваяводы Дабрыня й Пуцята хрысцілі «агнём і мячом». Прыход новае веры ў беларускі Тураў таксама стаўся падзеяю драматычнай: нездарма там дагэтуль жыве паданьне пра каменныя крыжы, што прыплілі з Кіеву ды афарбавалі Прыпяць крывёю.

А як жа прыняла Хрыстовую веру Полацкая зямля?

Афіцыйныя гісторыкі ніколі нічога пэўнага не казалі - маўляў гэта частка Кіеўскай Русі, таму ўсё было тут, як у сталіцы ці, у горшым разе, як у Ноўгарадзе. Аднак зьвестак пра тое, як хрысцілася наша першая дзяржава, мы ня знойдзем ні ў водным зь вядомых сёння летапісаў. Няхай Полацкі летапіс не захаваўся, але, калі б кіеўскія дружыньнікі ўчынілі на берагох Дзьвіны крывавы гвалт, гэта абавязкова адзначылі б іншыя летапісцы.

Ва Ўладзіміра Сьвятаслававіча ўжо не было дастатковай сілы, каб хрысьціць палачанаў прымусова. Княства няўхільна адраджала сваю самастойнасць. Яго валадары - нашчадкі Рагнеды - ня мелі патрэбы сьцьвярджаць сваю ўладу пераводам у хрысьціянства адразу ўсіх жыхароў, як зрабіў князь Уладзімір у Ноўгарадзе. Паганская вера несла ў сабе шмат сьветлага, такога, ад чаго чалавеку нялёгка адмовіцца. Полацкія князі, разумеючы гэта, тым ня менш не хацелі бачыць сваю зямлю паганскаю выспаю сярод хрысьціянскай Эўропы. Яны цьвяроза ацэньвалі перавагі, якія давала дзяржаве і яе народу новая вера. Таму Полацак прыняў яе і спрыяў мірнаму пашырэнню Хрыстовага вучэння на ўсім крывіцкім абшары.

Сёй-той з нашых продкаў мог надзець крыж яшчэ ў часе паходаў на хрысьцьянскую Бізантыю. Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што хрысьціянінам быў князь Рагвалод. Магчыма, у Полацку ўзнік і першы ва ўсходніх славянаў манастыр. Дапусьціць гэта дазваляе скандынаўская «сага пра хрышчэнне», дзе апавядаецца пра падзеі X стагодзьдзя. Герой сагі, прылічаны пасьля сьмерці да сьвятых Торвальд Вандроўнік, хрысьціў Ісляндыю, адкуль выправіўся ў Ерусалім. Заслужыўшы вялікую пашану канстантынопальскага патрыярха, паломнік вяртаўся на радзіму праз усходнеславянскія землі. У «Русіі» ён заснаваў манастыр Іаана Хрысьціцеля, у дарозе сканаў і быў пахаваны «на высокай гары каля царквы сьвятога Іаана непадалёку Полацку». Высокую гару знайсьці ў Полацку няцяжка. Быў тут і згаданы ў гістарычных дакументах старажытны манастыр у гонар Іаана Хрысьціцеля.

Няма ніякіх доказаў, што Полацкая зямля прымала хрост ад Кіеву. Затое ёсьць багата іншых сьведчанняў. Аўтар «Апавесьці мінулых гадоў» піша, што ў 1008 годзе ў Полацку «перанесены сьвятыя ў сьвятую Багародзіцу». Першыя кіеўскія сьвятыя Барыс і Глеб зьявяцца адно праз колькі гадоў, а перанясуць іх мошчы ў царкву, як сьведчыць той жа летапісец Нестар, у 1072 годзе. Хто ж тады тыя таямнічыя полацкія сьвятыя? Сама верагоднае, што пакутніца Рагнеда-Анастасься ды ейны сын Ізяслаў. Канстантынопальскі патрыярх дазволіць кананізаваць мясцовых сьвятых праз сваю зацікаўленасьць у хрысьціянізацыі Палацкай зямлі паводле ўсходняга абраду. Княства ж, бязумоўна, хацела мець сваіх сьвятых дзеля ўмацавання незалежнасьці.

Некаторыя аўтары, грунтуючыся на зьвестках Іпацеўскага і Лаўрэнцеўскага летапісаў, называюць датай стварэння Полацкай епархіі 1105 год, але гэта ніяк ня можа адпавядаць сапраўднасці. Згаданыя летапісы паведамляюць толькі аб прызначэнні ў Полацак епіскапа. Між тым, у крывіцкай сталіцы ўжо паўстагодзьдзя стаяў Сафійскі сабор, а такога храму не маглі пабудаваць, калі б у Палацку не было свайго епіскапа і раней.

Новая вера прыйшла ў Беларусь проста зь Бізантыі. Здарылася гэта яшчэ да афіцыйнага падзелу хрысьціянства на заходнюю і ўсходнюю плыні, які адбыўся ў 1054 годзе. Хрысьціўшыся паводле грэцкага абраду, нашыя прадзеды не адчувалі варожасці да вернікаў-лацінцаў. Нават у XII стагодзьдзі тут працягвалі пашырацца жыцьцяпісы рымскіх сьвятых. «Родам рымлян» быў адзін зб першых беларускіх сьвятых Меркур Смаленскі. Мы ня ведаем на тагачасных беларускіх землях ніякай скіраванай супраць заходняга хрысьціянства літаратуры. Гэта яшчэ раз сьведчыць пра ўласьцівы продкам шляхотны дух талеранцыі, традыцыі якой пазьней будуць захоўвацца і разьвівацца ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Знайте свои права

# Если Вас задержали и доставили в милицию, ЗНАЙТЕ, ЧТО:

1. Вы имеете право требовать, чтобы милиция **немедленно** уведомила Ваших родственников о Вашем местонахождении. Милиция **обязана** сделать это в соответствии со статьёй 6 Закона «О милиции». Вашим родственникам ил друзьям следует без промедления обратиться к адвокату (в любую юридическую консультацию) для Вашей защиты.

2. Вы имеете право **пользоваться помощью адвоката**. Милиция обязана предоставить Вам возможность встретиться с адвокатом, но НЕ обязана предоставить Вам адвоката. Поэтому важно как можно скорее сообщить родственникам или друзьям о Вашем задержании. Если милиция говорит, что Вы не имеете права на помощь адвоката или что адвокат может участвовать только при рассмотрении Вашего дела в суде, **НЕ ВЕРЬТЕ**. Милиция может ссылаться на статьи Кодекса об административных правонарушениях (КоАП) или даже Уголовно-процессуального Кодекса (УПК), но Вы должны знать, что Конституцией Республики Беларусь (статья 62) Вам гарантируется право пользоваться помощью адвоката в любой момент.

3. Вы имеете право **отказаться давать какие-либо объяснения и ничего не подписывать** (пока Вы не поговорите с адвокатом).

4. Вы имеете право знать, почему Вас задержали.

Ваше задержание может быть связано с тем, что Вас обвиняют в совершении административного правонарушения. Это называется **административным задержанием**. Написанное ниже относится к административному задержанию.

Если Ваше задержание связано с уголовным делом, **ничего не подписывайте и отказывайтесь разговаривать со следователем** или кем-либо другим до тех пор, пока Вам не дадут возможности пользоваться Вашим КОНСТИТУЦИОННЫМ ПРАВОМ на юридическую защиту и встретиться с адвокатом.

5. Милиция **обязана составить протокол** о Вашем административном задержании. В этом протоколе должны быть указаны: дата, место состоавления, ВРЕМЯ, МЕСТО и ОСНОВАНИЯ Вашего задержания, Ф.И.О. и должность, составляющего протокол.

ВНИМАТЕЛЬНО прочтите этот документ. Вы имеете право его **не подписывать** (и письменно указать, почему Вы отказываетесь это сделать). Вы имеете право сделать запись в протоколе обо всём, с чем Вы не согласны, объяснить Ваше отношение к задержанию.

6. Милиция имеет право произвести **личный досмотр** Вас и Ваших вещей. Личный досмотр должен производиться лицом **одного с Вами пола** в присутствии двух свидетелей (понятых) **того же пола**.



При личном досмотре милиция имеет право изъять Ваши вещи и документы. ОБРАТИТЕ ВНИМАНИЕ, чтобы в протоколе были **перечислены и точно описаны** все изъятые у Вас вещи и документы.

7. Документом, на основании которого Вас могут привлечь к административной ответственности, является **протокол об административном правонарушении**. При составлении этого протокола Вам должны разъяснить Ваши права.

ОЧЕНЬ ВНИМАТЕЛЬНО прочтите этот протокол. В нём должны быть указаны: дата, место составления протокола, Ф.И.О. и должность составляющего протокол; когда и какое административное правонарушение Вы совершили; Кто был свидетелем этого административного правонарушения.

ВЫ ИМЕЕТЕ ПРАВО приложить к протоколу Ваши **письменные объяснения**. Если Вам не дают возможности сделать запись в самом протоколе, изложите Ваши объяснения отдельно и настаивайте, чтобы в протоколе было указано, что Ваши объяснения **прилагаются** к протоколу.

Вы можете отказаться подписывать протокол, но лучше **самостоятельно** записать, почему Вы это делаете.

8. АДМИНИСТРАТИВНОЕ ЗАДЕРЖАНИЕ НЕ ДОЛЖНО ПРЕВЫШАТЬ **ТРЁХ** (3) ЧАСОВ.

Но если Вас обвиняют в совершении мелкого хулиганства, нарушении порядка организации и проведения собраний, митингов, уличных шествий и демонстраций, торговли в не установленных местах, незаконной продажи товаров или мелкой спекуляции, ТО Вы можете быть задержаны ДО РАССМОТРЕНИЯ ДЕЛА судьёй или начальником (заместителем начальника) милиции.

Срок административного задержания начинает отсчитываться **с момента доставления** Вас в милицию.

9. О своём несогласии с задержанием, личным досмотром, изъятием вещей Вы имеете право **написать в жалобе** в суд, начальнику органа внутренних дел или прокурору.

ВСЕГДА ПОМНИТЕ:

Вы находитесь во власти милиции. Не паникуйте, не теряйтесь, не показывайте страха. Не горячитесь, не поддавайтесь на провокации, не идите на конфликт. Будьте уверены в себе, спокойны, вежливы.

Все нарушения закона, допущенные в отношении Вас, являются основанием для наказания виновных работников милиции.

После освобождения без промедления обращайтесь к адвокату, в правозащитные организации.



Бюлетэнь «Грамадзянскі форум».
Заснавальнік:
АРМА «Грамадзянскі форум».

Выдаецца на беларускай і рускай мове. Перыядычнасць 2 разы ў месяц.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі. Выдадзена накладам 299 асобнікаў.
Выдадзена пры дабрачыннай падтрымцы Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша", Фонда "Альянс Каунтэрпарт", Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).
Адрас для пошты: 231100, Ашмяны-3, а/я 63. E-mail: Civil_Forum@mailru.com